

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№4 (313) САКАВІК 2022 ГОД


ГРАМАДСТВА

## ДЛЯ ЧАГО РЫХТУЮЦЬ "ДАПРЫЗЫЎНІКОЎ"?

**Раённы семінар па ваенна-патрыятычным выхаванні прайшоў у Обальскай сярэдняй школе.**

Удзельнікі семінару задаліся пытанем, да прыкладу, чаму сучасная беларуская моладзь не хоча служыць у арміі, што трэба для таго, каб падлеткі ганарыліся сваёй радзімай і рабілі ўсё магчымае для яе дабрабыту і росквіту? Менавіта такі адказы на гэтыя і іншыя пытанні паспрабавалі знайсці ўдзельнікі раённага семінара па ваенна-патрыятычным выхаванні, які прайшоў у Обальскай СШ імя Героя Савецкага Саюза З. М. Партновай.

Цяперашняе мерапрыемства сабрала кіраўнікоў па ваенна-патрыятычным выхаванні і настаўнікаў дапрызыўнай падрыхтоўкі. Дарэчы, калі ў 90-я гады некаторым школам раптам стала «не модна» насіць імёны герояў, тут абаранілі сваю пазіцыю, абаранілі памяць. Міф пра піянерку Зіну Партнову "натхніў і акрыліў" не адну юную душу на добрыя справы. Музей Обальскага камсамольскага падполля таксама не дае патухнуць полымю ўдзячнай і высакароднай памяці.

Аднак сёння грамадства ў цэлым і педагогі ў прыватнасці азадачаныя тым, ці досыць патрыятычным вырасце пакаленне, бабулі і дзядулі якога нарадзіліся ўжо ў мірны час? Магчыма, для таго, каб навучыць падлеткаў радзіму любіць, патрэбны дадатковыя намаганні? Так у сярэдніх школах з'явіліся кіраўнікі па ваенна-патрыятычным выхаванні. Патрабаванні да такіх спецыялістаў надзвычай высокія – вышэйшая адукацыя, досвед вайсковай службы і педагагічнай работы і іншыя.

Знайсці такога няпроста. Обальскай школе пашанцавала, тут працуе палкоўнік запасу Дзмітрый Гарушка. Пасля службы ва Узброеных Сілах Дзмітрый Леанідавіч выкладаў у Полацкім кадэцкім вучылішчы, таму яго вопыт асабліва каштоўны. У Обальскай школе ў старшакласнікаў ён вядзе дапрызыўную падрыхтоўку, 6-9-класнікаў – заняткі па інтарэсах «Юны ратавальнік-пажарны» і «Юны інспектар дарожнага руху», дзе дзеці не толькі атрымліваюць тэарэтычныя веды, але і займаюцца фізічнай падрыхтоўкай.

У рамках семінара прайшлі адкрытыя заняткі па арганізацыі фізічнай падрыхтоўкі з элементамі ваенізаванай эстафеты. Старшакласнікі прадэманстравалі спрыт, вынослівасць, выдатную фізічную форму.

Ці досыць трапна страляць і добра бегаць для таго, каб лічыць сябе патрыётам? Безумоўна, не. Патрыятызм – гэта асабістыя пачуцці чалавека. Іх фарміраванне – вельмі тонкая работа. І простая адначасова.

А яшчэ выхаванцы Дзмітрыя Леанідавіча падтрымліваюць сувязь з дзецьмі з кадэцкага вучылішча. Хутка збіраюцца ў госці на конкурс вальса. Заадно пабываюць і ў вайсковай часці 32404 Полацка.

Ужо шмат гадоў і на ўроках дапрызыўнай падрыхтоўкі, і падчас гутарак па душах педагог СШ № 1 імя Героя Савецкага Саюза П. А. Акуцыёнка Аляксандр Петухоў займаецца патрыятычным выхаваннем моладзі. Тым не менш, ён упэўнены, што толькі ў сям'і магчыма закласці моцны падмурак для сапраўдных грамадзянскіх пачуццяў.

Аднак самі педагогі прызнаюцца, што "сёння ў моладзі няма герояў, на якіх яны хацелі б раўняцца. Яны часта хочуць атрымаць усё і адразу, не прыкладаючы намаганняў". Чаму так адбываецца, калі шумілінскія школы носяць назвы рэальных герояў вайны? Па ўсяму відаць, што савецкія міфы, складзеныя падчас былых войнаў Савецкай Імперыі прапагандыстамі БССР – сёння не спрацоўваюць. Сучасныя беларускія дзеці, якія маюць доступ да сеціва, могуць самі лёгка знайсці тыя ісціны, якія закладзены ў падмурак сапраўднай гісторыі незалежнай Беларусі. Ім незразумелы тыя прапагандысцкія заклікі ў духу: "за нашу великую Родину, за Сталина, за СССР." Вось і атрымоўваецца ў выніку, што на безнадзейна састарэлай ідэалогіі – могуць атрымацца "патрыёты суседняй дзяржавы", а не Беларусі. Тым болей, што ў новай рэдакцыі Канстытуцыі адсутнічае статус Беларусі, як нейтральнай дзяржавы.

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

КУЛЬТУРА

## МАСЛЕНІЧНЫЯ ГУЛЯННІ З БЛІНАМІ

**5 сакавіка ў Шуміліне ладзілі традыцыйнае свята беларускай Масленіцы.**

Гісторыя свята Масленіца сыходзіць сваімі каранямі глыбока ў старажытнасць. Масленіца – славянскае свята, якое дасталося нам у спадчыну ад язычнікаў і таксама захавалася пасля прыняцця хрысціянства. Гэта заўсёды было самае вясёлае і любімае народнае гулянне. Гэта вясёлыя праводзіны зімы, азораныя радасным чаканнем блізкага цяпла, вясновага абнаўлення прыроды.

А забаў на свяце ў Шуміліне было на любы густ і ўзрост: тут табе і класічны «слуп», і перацягванне каната, і майстар-клас па вырабу «сонейка» сваімі рукамі, і традыцыйнае спальванне пудзіла Зімы. Але самае галоўнае на Масценіцу бліны. Іх, румяных, духмяных, залацістых, з начыннем і без, салодкіх і салёных, хапіла кожнаму і яшчэ засталося.

Бадай што, дзіцячыя сады і школы, раённая бальніца і музей, Дом рамёстваў і бібліятэкі зараз на свята блінцы смажылі проста ўсе разам. Прычым смажылі гэтыя прысмакі наўпрост у гарадскім парку –. шумілінцы й нашы госці даўнавата такой раскошы не бачылі. Адны пекары завіхаліся, прыладзіўшы патэльні да мангалаў, іншыя – па даўняй беларускай традыцыі распалілі калоды і частавалі гасцей свята гарачымі дранікамі, аладкамі, тонкімі блінамі з водарам дымку ў самым прамым сэнсе з пылу, з жару. Пах бліноў стаяў на ўсю шумілінскую акругу, таму і людзі сталі падцягвацца да месца гулянняў. Тым больш што падсілкавацца перад Вялікім постам можна было абсалютна бясплатна.

Ладзіўся конкурс на самыя смачныя бліны. Іх аддавалі за спецыяльныя фішкі. У каго больш фішак — той і перамог. Толькі вось мы частаваліся ля кожнай інтэрактыўнай пляцоўкі і можам адказна заявіць: нясмачных бліноў на свяце не было.

Народны клуб аматараў беларускай нацыянальнай кухні «Разынка» ў гэты раз частаваў гасцей рознага віду дранікамі. З фаршам ды грыбамі, на буйную тарку ды на ўсю патэльню, «гобікамі» ды з начыннем. Майстры сабралі па Шумілінскім раёне і асвоілі з дзясятак аўтэнтычных рэцэптаў гэтага традыцыйнага блюда. Мы ж ведаем, што дранікі — гэта не проста смачна, сытна ды карысна, гэта яшчэ і наша нацыянальная культура, фірменны знак, пазнавальны брэнд.

Як заўжды, парадавалі медыкі — яркімі касцюмамі, амаль сапраўднай печкай ды шчодрым сталом, дзе апроч скварак ды варэння да бліноў падавалі нават ікру.

Медыкаў журы адзначыла ў намінацыі «Арыгінальная падача». Самыя смачныя бліны пяклі на пляцоўцы ясляў-садкоў. Прызы глядацкіх сімпатый атрымалі цэнтр па забеспячэнні дзейнасці бюджэтных арганізацый і другая Шумілінская сярэдняя школа.

І напрыканцы мерапрыемста свята атрымалася не толькі смачным, але і надзвычай яркім, дзякуючы адмыслова афармленым інтэрактыўным пляцоўкам, арыгінальным касцюмам удзельнікаў. Работнікі культуры спявалі ды танцавалі не толькі на сцэне, але і "выходзілі ў народ", навідавоку – смадзейныя артысты стараліся так, каб шумілінцам было весела.

Па ўсяму відаць, што сёлета раённы цэнтр дзяцей і моладзі, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр, нават раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях – усе дружна прыклалі намаганні на тое, каб свята было гучным, яркім і непаўторным.

**М. Амбросаў**

## КАЛЕКЦЫЯ ДРАНІКАЎ АД "РАЗЫНКІ"

**Што вам прыходзіць у галаву, калі гаворка ідзе пра беларускую нацыянальную кухню? Вядома, дранікі! Нашы продкі заўжды прад'яўлялі да ежы самыя лагічныя патрабаванні: яна павінна быць сытнай, смачнай і проста гатавацца. І ў нас няма ніякай нагоды адмаўляцца ад гэтых прынцыпаў.**

У Доме рамёстваў Шумілінскага раёна ўжо 25 год паспяхова працуе народны клуб аматараў нацыянальнай беларускай кухні «Разынка». Яго ўдзельнікі вывучаюць ежу як этнакультурную з'яву, якая адлюстроўвае нацыянальныя традыцыі, уклад жыцця нашых продкаў, этыкет і іншыя асаблівасці. Яны ўпэўнены, што народная кухня – гэта нацыянальны здабытак, які важна захоўваць і папулярызаваць.

– Шумілінршчына заўжды была сельскагаспадарчым рэгіёнам. Нашы продкі вырошчвалі зерневыя культуры, бульбу, гародніну, з якіх гатавалі паўсядзённыя і святочныя істравы. І ў кожнай сям'і на стале абавязкова былі стравы з дранай бульбы: дранікі, клёцкі, піражкі, бабка і іншыя, – расказвае дырэктар Дома рамёстваў кіраўнік клуба Анжэла Сяргеева.

Паколькі дранікі застаюцца самай папулярнай і любімай стравай сучаснікаў, шумілінскія майстры вырашылі занатаваць для нашчадкаў мясцовыя рэцэпты. Яны выязджалі ў экспедыцыі па раёне, старанна запісвалі інгрэдыенты, прапорцыі і спосабы прыгатавання ад розных гаспадынь. Зрабілі вывад пра тое, што хоць дадзеная страва мае аўтэнтычны смак і выгляд, але ў кожнай жанчыны ёсць свой любімы рэцэпт і сакрэты, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

Да прыкладу, у сям'і Ганны Лузгіной з вёскі Дубрава гатавалі «гобікі». Для здрабнення бульбы выкарыстоўвалі «бурачную» тарку, а пасля вайны прыстасавалі для гэтай справы мясарубку. Дзякуючы такому спосабу дранікі атрымліваюцца «лёгкімі» і набываюць асаблівы смак. На кілаграм бульбы спатрэбяцца 2 буйныя цыбуліны, 0,5 кілаграма свінога фаршу, 2 яйкі, 3 сталовыя лыжкі мукі, соль і перац. Інгрэдыенты трэба здрабніць, з атрыманага цеста вылепіць катлеты і абсмажыць іх на свіным тлушчы. Затым «гобікі» варта скласці ў кацёл, дадаць крыху кіпеню і адправіць у печ на

*(працяг на стар. 2)*

КУЛЬТУРА

(пачатак на стр. 1)
гадзіну. А падаваць гарачымі са смятанай.

Наталля Сцержанкова з Шуміліна гатуе па матулiным рэцэпце арыгінальныя піражкі. Для гэтай смакаты бярэ кілаграм бульбы, 2–3 сталовыя лыжкі мукі, 1 яйка, 1–2 сталовыя лыжкі смятаны, 300 грамаў свінога фаршу, жменьку сушаных грыбоў, зубок часнаку, соль і перац. Цёртую на дробнай тарцы разам з часнаком бульбу гаспадыня крыху адціскае, дадае смятану (каб цеста не пацямнела), яйка, соль і муку. Добра перамешвае.

Для начынкі загадзя замочаныя сухія грыбы прапускае праз мясарубку, перамешвае з фаршам, соллю, перцам, дадае крыху вады.

Затым фармуе піражкі з начынкай, абсмажвае іх на вялікім агні і даводзіць да гатоўнасці ў чыгунным посудзе ў печы, дадаўшы крыху смятаны і лаўровы ліст.

— Гаспадыні гатавалі дранікі з мукой і без яе, адны клалі ў цеста цыбулю, іншыя — часнок. Начынне рабілі з мяса, грыбоў, абсмажаных у сметанковым масле цыбулі і морквы, — расказвае майстар Вольга Загвоздава. — Здрабнялі бульбу на буйной ці дробнай тарцы, мясарубцы. У фондах Дома рамёстваў захоўваецца і традыцыйны для Шумілінскага раёна камплект для здрабнення мяса ці гародніны — невялікія начоўкі і паўкруглы сякач. Да простых дранікаў звычайна падавалі падсоленую смятану з тварагом ці смажанае з цыбуляй сала.

У Доме рамёстваў упэўнены, што іх калекцыя дранікаў — найкаштоўнейшы скарб. Тут імкнуцца дзяліцца рэцэптамі, ладзіць майстар-класы, дэгустацыі — усяляк «піярыць» свой родны дранік. Бо заслужыў.

Шумілінскія аматары беларускай нацыянальнай кухні такім чынам уносяць свой неацэнны ўклад у захаванне нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей Віцебшчыны.

Нам выпала пачаставацца смачнымі блінамі з бульбы падчас масленічных гулянняў у Шуміліне. Вольга Загвоздава, пякла іх, як даўней, на яловай калодзе. Смачныя, сытныя, з дымком – проста язык праглынеш. Усялякія брускеты з авакада ні ў якое параўнанне не ідуць. Будзеце на Шуміліншчыне – заходзьце на дранікі!

**“vitbichi.by”**

# ВЫСТАВА МАЙСТРОЎ У ВІЦЕБСКУ

**Самабытныя творы майстроў Шуміліншчыны прадстаўлены на выстаўцы ў абласным метадычным цэнтры народнай творчасці.**

Экспазіцыя арганізавана ў рамках дэбютнага арт-праекта 2022 года "Захавальнікі народных рамёстваў", які знаёміць з традыцыйным мастацтвам прадстаўнікоў розных раёнаў Віцебшчыны.

Адкрылі цыкл тэматычных выстаў дубровенскія майстры, а зараз эстафету прыняў Шумілінскі дом рамёстваў. Як расказала яго дырэктар Анжэла Сяргеева, у рэгіёне займаліся рознымі відамі народнай творчасці, многія з іх маюць свае адметныя рысы. Гэта і адмысловы спосаб пляцення саламяных павукоў, і свая тэхналогія выраба задымленай керамікі, і арыгінальны крой народных гарнітураў. У экспазіцыі таксама прадстаўлены лапікавыя і размаляваныя дываны, аўтарскія лялькі, вышываныя ручнікі і многае іншае.

Кіраўнік народнага клуба майстроў «Спадчына» Вольга Загвоздава (на фота ўверсе) больш за трыццаць гадоў займаецца вывучэннем мастацкіх рамёстваў, якія бытавалі на Шуміліншчыне. Асвоіла розныя віды традыцыйнага мастацтва, а ў апошнія гады захапілася аднаўленнем рэгіянальнага ладу народнага касцюма.

На Шуміліншчыне для вырабу саламяных павукоў выкарыстоўвалі бульбіны. Плялі ў форме ромбаў, упрыгожвалі стужкамі, а часам і фанцікамі ад цукерак. Такі абярэг вешалі пад столь.

– Звесткі збірала па крупінках, знаходзіла апісанні ў кнігах, распытвала мясцовых жыхароў, працавала ў музеях, – тлумачыць майстар.

На выставе можна ўбачыць вясельныя строі нявесты і жаніха. На галаву дзяўчына апранала вяночак, упрыгожаны васковымі кветкамі. Вольга Загвоздава ўспамінае, як яе маці рабіла такія вясельныя ўборы, і кветачкі на іх былі нібы жывыя.

Цікавасць выклікае і крой рукава ў жаночым гарадскім гарнітуры – ён даўжэй у паўтара разы і збіраўся на запясце. Гэта надавала нараўне "царскі" выгляд.

– Дадзеная дэталь прыйшлася па душы цяперашнім модніцам, некаторыя ўжываюць старадаўні крой у сваіх уборах. Глядзіцца вельмі прывабна, – дзеліцца майстар.

А яе калега Наталля Пятрова расказвае, што сучасныя гаспадыні па заслугах ацанілі плеценыя кошыкі з тоўстай моцнай ручкай, якія называліся бульбянкамі. У іх насыпалі бульбу, дастаючы яе са склепа, бралі для пасадкі на поле, а таксама ў лес у грыбы і ягады. Нарасхват ідуць і часнычніцы з прутоў і кары лазы. У іх зручна захоўваць зімой цыбулю, часнык, фасолю, якія не псуюцца дзякуючы натуральнай вентыляцыі і натуральнаму матэрыялу.

У рамках арт-праекта «Партрэт майстра», які стаў складовай часткай выставы Шумілінскага дома рамёстваў, прадстаўлены творы Наталлі Сцяржанковай. Майстар больш за 20 гадоў займаецца саломапляценнем, не раз была адзначана на розных выставах, конкурсах і кірмашах. Наталля Сцяржанкова стварае рытуальныя калядныя маскі, абярэгі, лялек, карціны з саломкі, адрадзіла старажытную тэхналогію пляцення павукоў.

На выставе можна ўбачыць узоры шумілінскіх павукоў, якія адрозніваюцца не толькі формай, але і вялікім памерам. Тут таксама прадстаўлены выраблены Наталляй Сцяржанковай дажыначны сноп, які заняў першае месца на «Дажынках-2021» у Шуміліне.

**vitvesti.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

СПОРТ

# ШУМІЛІНСКІЯ СТРАЛКІ

**У Шуміліне прайшлі спаборніцтвы па стральбе з пнеўматычнай зброі сярод моладзі.**

25 лютага ў пятніцу на гарадскім стадыёне ў Шуміліне адбыліся спаборніцтвы па стральбе з пнеўматычнай зброі комплексу сілавых практыкаванняў сярод моладзі, прысвечаныя Дню абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Беларусі.

У спаборніцтвах удзельнічалі ў дзвюх узроставых катэгорыях: юнакі 16-17 год і хлопцы 18-30 год.

Перадусім начальнік адасобленай групы аб'яднанага ваеннага камісарыяту Бешанковіцкага і Шумілінскага раёнаў Андрэй Собін пажадаў маладым людзям поспехаў і бліскучых перамог.

Удзельнікі спартыўных спаборніцтваў паказалі добрыя вынікі, таму і перамогі былі годны амаль кожны стралок. Прынамсі, дыстанцыйныя разрывы паміж імі таксама аказаліся мінімальныя. У выніку сярод юнакоў 16-17 год першае месца трывала ў Арцёма Сушанава (Шумілінская СШ №1), другое ўзяў Даніла Казакевіч (Шумілінская СШ №2), трэцяе дасталося Антону Дубініну (Шумілінская СШ №1); сярод хлопцаў 18-30 год прызавая тройка наступная: першае месца заняў Андрэй Лялюга (Шумілінская СШ №1), другое дасталося Андрэю Лазару (Белтэлекам), на трэцім апынуўся Дзмітрый Андрэеў (УП ЖКГ).

**Алесь Прыбярэжны**

АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС

# ПАДРЫХТОЎКА ДА ПАСЯЎНОЙ НА ФІНІШЫ

**На сённяшні дзень на палетку Шуміліншчыны падчас пасяўной кіраўнікі раёна плануюць вывесці да 190 трактароў.**

Як вядома, зараз у майстэрнях гаспадарак раёна настала гарачая пара – тут рамантуюць трактары, плугі і пасяўныя агрэгаты. Тым болей, што дзеля гэтай мэты з раённага бюджэту выдзелена каля 200 тысяч рублёў, якія размеркаваны па сельгаспрадпрыемствах раёна.

Паводле начальніка аддзела ўпраўлення па сельскай гаспадарцы і харчаванні райвыканкама Рамана Прасветава “плануецца, што падчас пасяўной кампаніі на палетку раёна выведуць 190 трактароў, да якіх будуць падчэплены 35 плугоў, 16 камбінаваных пасяўных агрэгатаў, 19 культыватараў, 10 дыскавых барон.” Апроч таго, будуць працаваць 17 трактароў на вывазцы арганічных угнаенняў. Безумоўна, сітуацыя з рамонтам тэхнікі ў раёне не крытычная – ужо гатова 86% трактароў. На маторарамонтным заводзе ў Віцебску знаходзіцца некалькі нашых рухавікоў і чатыры сеялкі, якія хутка будуць даведзены да ладу».

**Ян Вайтовіч**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# БЯСПЕКА АД МАЛОГА ДА ВЯЛІКАГА

**Днямі старшы інспектар Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС Вячаслаў Дзіклаў правёў навучальныя мерапрыемствы з дарослымі і дзецьмі яслі-сада № 1 гарадскога пасёлка Шуміліна.**

З працоўным калектывам дашкольнай установы адукацыі абмеркавалі правілы бяспекі дома і на вуліцы, пазнаёміліся з пажарным апавяшчальнікам і парашковым вогнетушыцелем. Вячаслаў Уладзіміравіч нагадаў аб карысці мабільнага дадатку "МНС Беларусі: "Дапамога побач".

Таксама работнікам дзіцячага садка прадстаўнік МНС раскрыў "Сакрэт бяспекі", тыя асноўныя правілы, якія трэба выконваць, каб не здарылася бяды.

Пасля, выратавальнік правёў навучальную імпрэзу з дзецьмі, падчас якой нагадаў ім пра тыя правілы, якія трэба выконваць, каб не апынуцца ў надзвычайнай сітуацыі. Як паводзіць сябе на вуліцы, каля вадаёмаў і дома. Дзеці патрэніраваліся выклікаць ратавальнікаў, пазнаёміліся з усімі спецыяльнымі службамі, навучыліся дзеянням пры пажары, а таксама прымералі на сябе форму ратавальніка. Дзеткі доўга не хацелі адпускаць прадстаўніка МНС і дзякавалі за цікавае і пазнавальнае мерапрыемства.

І гэта яшчэ не ўсё. Перадусім у Шуміліне ў рамках другога этапа рэспубліканскай акцыі «Бяспека – у кожны дом!» ратавальнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях сустрэліся з вучнямі СШ №1 і правялі інтэрактыўную гульню.

Інспектар сектара прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю РАНС Вадзім Півавараў расказаў пра асноўныя прычыны пажараў (сёлета іх здарылася ўжо 3), прывёў прыклады трагедый, якія адбыліся з-за неасцярожнага абыходжання з агнём і чалавечай бестурботнасці.

Працягам сустрэчы стала гульня «Дзе логіка?», дзе старшакласнікам прыйшлося адгадваць зашыфраваныя прадметы і фразы. Пасля кожнага правільнага адказу супрацоўнік МНС распавядаў пра правілы бяспекі з улікам адгаданага слова. У выніку хлопцы і дзяўчаты пазнаёміліся і з дадаткам для мабільных тэлефонаў «МНС Беларусі. Дапамога побач», і паўтарылі правілы выкарыстання першасных сродкаў пажаратушэння. А таксама не толькі пераканаліся ў эфектыўнасці і карысці аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, але і паспрабавалі паспаборнічаць у яго ўсталяванні

Завяршылася мерапрыемства праглядам фільма «Студэнты. Бяспека. Будучыня».

Дарэчы, у 2021 годзе аўтаномны пажарны апавяшчальнік выратаваў на Віцебшчыне амаль тры дзясяткі жыццяў. Як вядома, АПІ рэагуе на задымленні, падае гучны сігнал, разбудзіць чалавека, які спіць. Менавіта таму яго рэкамендавана ўстанавіць яго ва ўсіх жылых пакоях, размясціўшы ў цэнтральнай часці столі. Пры гэтым не забывацьпра тэхнічны нагляд на прыладай. Трэба ачышчаць ад пылу з дапамогай пыласоса ці фена не радзей аднаго раза ў год, своечасова мяняць батарэйкі, правяраць працаздольнасць адзін раз у месяц націсканнем тэставай кнопкі.

**Алесь Прыбярэжны**

МЕРКАВАННЕ

# «ЛУКАШЕНКО ЧУЕТ, ЧТО АКЕЛА-ПУТИН ПРОМАХНУЛСЯ»

**Экономист Ярослав Романчук — о том, что в мире происходит, наконец, моральное избавление от real politic, где главное — деньги. И чего ждать.**



Все больше брендов и компаний объявляют о том, что уходят как из России, так и из Беларуси. Этот массовый исход белорусы прочувствуют на себе, причем не в отдаленной перспективе, а уже в ближайшее время, отмечает известный белорусский экономист Ярослав Романчук, который находится в Киеве.

— Это такой очень жесткий способ выучить законы, причем не только экономики, но демократии и общечеловеческих ценностей, — сказал эксперт в экспресс-комментарии «Салідарнасці». — В ситуации, когда Лукашенко воспринимается частью кампании агрессора в войне против Украины, естественно, в мировом сообществе, особенно с учетом репутации Лукашенко 2020-2021 года, особо не разбирают степень вовлеченности белорусского режима.

Сегодня происходит, наконец, моральное избавление от real politic, где главное — деньги, «бабки», а остальное вторично. Наверное, впервые в мировой экономике мы имеем прецедент, когда во главу угла международные компании ставят иные ценности — ценность жизни, ценность мира.

Даже такой гигант, как Coca-Cola, который работал даже в Советском Союзе, не мог не реагировать на обструкцию, устроенной компании по всему миру за то, что она решила остаться в России, и в итоге решил оттуда выйти.

Поэтому те белорусы, которые ностальгировали по советской экономике, думали, что централизованное плановое хозяйство — хорошо, государственная собственность — это хорошо, теперь на собственной шкуре убедятся, что это такое.

Это радикальное сокращение инвестиций, это технологическая деградация, сотни тысяч разрушенных рабочих мест, дыра в бюджете. Резкое падение качества жизни, начиная с самого начала — памперсы, продукты гигиены, лекарства, сбор ребенка в школу, связь, образование, инструменты, комплектующие, технологии.

Каждый белорус даже не осознавал, каким количеством иностранных товаров и слуг он пользуется, считая это чуть ли не само собой разумеющимся.

Те компании, которые дружно вышли или анонсировали выход из России и Беларуси, демонстрируют переход в новый мир, в котором, в отличие от зомбированных марксистов, не «все за деньги». Происходит детоксикация сознания белорусов от Госплана, «совка 2.0».

Санкции против России радикально ускорят этот процесс, подчеркивает аналитик, особенно с ощутимой угрозой милитаризации и населения и призыва тысяч мужчин на военную службу.

**— Кто хочет быть частью агрессии, чтобы тебя застрелили в Украине и потом стыдливо прятали трупы, потому что тебя, якобы, здесь, нет?**

В общем, происходит действительно тектонический слом, та точка бифуркации, которая, получается, растянулась на три года с 2020-го — но теперь уже все.

Дефицит бюджета, падение доходов — про пенсии можно забыть. Те пенсионеры, которые голосовали за Лукашенко и считали, что Запад — это плохо и он загнивает, получат возможность убедиться, к чему может привести реализация их пожеланий.

Русские не ожидали, что давление будет происходить так резко, потому что все предыдущие годы с ними яшкались, проходили инвестиционные форумы — Валдайский, Красноярский, Питерский, Московский — у Путина и его окружения сложилось ощущение, что деньги, вывезены из страны, будут работать и никуда не денутся. Но когда, по сути, они начали Третью мировую войну — это уже не про прибыль, а про существование цивилизации. Ставки слишком высоки.

Это гигантская, грубейшая ошибка Путина. И то, что Лукашенко, хотя говорили о готовности войск, таки не решился послать армию в Украину, много значит. Он очень хитрое политическое создание, думаю, он уже чует, что Акела-Путин промахнулся, не хочет вместе с ним уйти в небытие и пытается хоть как-то выйти из этой ситуации.

**Однако, по мнению экономиста, опасно думать, что во всем виновата только Россия, а Беларусь вообще не при чем:**

— Белорусская плановая экономика как раз была частью проблемы, с которой мы столкнулись. Было бы иначе — не было бы у нас такой диктатуры, такой военной хунты, были бы гораздо более устойчивые институты развития; но вся существующая зависимость от России, контрабандный схематоз привели к тому, что мы тоже «приплыли».

Появляется шанс катарсиса — но если не выучить уроки, то его не будет. Не хотелось бы доходить до уровня Ирана, Венесуэлы, Северной Кореи. Но если представить, что Украина побеждает (а в этом нет никаких сомнений), то ее ждет бум обновления, а в России и Беларуси, если не будет критических изменений, ждет именно деградация по венесуэльскому и северокорейскому сценарию.

**Виктория Прокопович**
**gazetaby.info**

АНАЛІТЫКА

# БЕЛАРУСКАЙ МАДЭЛІ ЗАСТАЛОСЯ НА ТРЫ ДНІ?

**На зыходзе трэцяга дзесяцігоддзя будаўніцтва беларускай мадэлі ва ўвесь рост паўстала праблема «выжывання большасці галін» — а значыць, і мадэлі ў цэлым!**

Вялікае бачыцца на адлегласці. Спатрэбілася пражыць два разы па трыццаць тры гады, а потым яшчэ тры гады, каб усвядоміць усю глыбіню «Казкі пра рыбака і рыбку». Яна не пра рыбака і рыбку. Яна пра Саюзную дзяржаву, дакладней, пра яе самоту.

Не верыце? Тады звярніцеся да прэс-рэлізу аператыўнай нарады з вайскоўцамі на галоўным сайце краіны: «Трэба быць разам з тым, хто... Ну з кім мы можам быць разам? З палякамі? Ніколі. Вы бачыце іх пазіцыю. З прыбалтыйскімі рэспублікамі? Дык яны самі прыткнуліся да кагосьці. З украінцамі — вы бачыце, што ў нас атрымалася».

…Наша яна, матухна, наша. Не сумнявайцеся. Таму і газ за 128,52 «зялёных». Розніца на парадак! Без гэтай розніцы не відаць сярэднестатыстычнаму беларусу сярэднестатыстычнага заробку ў 657 долараў у снежні. Аднак гэта ў снежні — з улікам выплат па выніках года і пры курсе ў 2,55 рублі за долар. А якім ён будзе ў сакавіку?

Не ўсё ў руках Божых, сёетое і прэзідэнту Джозэфу Байдэну дасталося. Днямі ён распарадзіўся пра ўвядзенне ў дачыненні да Расіі новых «магутных» санкцый: «Мы абмяжуем магчымасць для Расіі весці бізнес у доларах, еўра, фунтах, енах, быць часткай сусветнай эканомікі».

Дык ці ж тое пагроза! Ніколі ў сваёй гісторыі Расія не імкнулася стаць нечай часткай, таму жылі, жывуць і будуць жыць большасць расійскіх старых людзей у старых зямлянках, але з пачуццём прыналежнасці да вялікай дзяржавы.

**«Ціха сам з сабою...»**

Адным з сінонімаў слова «імпартазамяшчэнне» з'яўляецца слова «ананізм». Абодва маюць прамое дачыненне да слова «самазадавальненне». Вікіслоўнік дазваляе азнаёміцца і са значэннямі слова. Ён рэкамендуе чытачам, зацікаўленым на эканамічнай тэматыцы, кнігу гісторыка Арона Гурвіча «Катэгорыі сярэднявечнай культуры».

Сярэднявечная культура, сярэднявечная эканоміка натуральным чынам заточаныя на самазадавальненне. Але, як аказалася, і сучасная яму не чужая.

Канкрэтны прыклад. Паводле звестак партала Aviation Experts, 93 працэнты замежных самалётаў забяспечваюць практычна ўсе пасажырскія перавозкі ў Расіі. 60 працэнтаў рынку займаюць пры гэтым самалёты Airbus і Boeing.

З таго ж дакумента вынікае, што да 2030 года авіякампаніям Расіі спатрэбіцца каля 700 новых самалётаў. Эксперты нагадваюць, што адзіным грамадзянскім самалётам, які выпускаецца серыйна на постсавецкай прасторы, з'яўляецца Superjet 100. У 2021 годзе выраблена 23 самалёты, у 2022 годзе чакаецца яшчэ 18.

Невялікае ўдакладненне наўздагон: на 80% расійскі суперсамалёт складаецца з імпартных дэталяў…

З імпартазамяшчэннем вас, дарагія таварышы! З самазадавальненнем!

**«Вы гатовыя плаціць?»**

У сваёй публічнай лекцыі, прачытанай за дзень да пачатку расійскай агрэсіі супраць Украіны, прафесар Чыкагскага ўніверсітэта Канстанцін Сонін прывёў, сярод іншых, і наступны факт: «Прыкладна з 2008 года ідзе стагнацыя — сярэднія тэмпы росту меншыя, чым падчас застою 1970-х гадоў».

Чым скончыўся застой, мяркую, можна не нагадваць. Адным з трыгераў, якія запусцілі лавінападобны працэс дэградацыі савецкай мадэлі, паслужыў увод войскаў у Афганістан. Але дзе той Афганістан і дзе Украіна? Калі да таго (да ўвядзення маштабных эканамічных санкцый) расійская эканоміка стагнавала, дык чаго варта чакаць цяпер?

Памыліцца той, хто палічыць апошняе пытанне рытарычным. У Пасланні—2022 на яго быў дадзены разгорнуты адказ: «Мы многае, калі не ўсе, зможам зрабіць самі. Гэта ўмова захавання нашага суверэнітэту, патрэбна толькі сістэмная і ўпарадкаваная праца па забеспячэнні эканамічнай самадастатковасці краіны.

Усё ў нас гэта ёсць. Таму намечаныя планы па імпартазамяшчэнні з'яўляюцца асновай выжывання большасці галін, дазволяць адысці ад санкцыйнай уразлівасці. Пытанню імпартазамяшчэння будзе нададзеная першасная ўвага ў наступнай пяцігодцы».

На зыходзе трэцяга дзесяцігоддзя будаўніцтва беларускай мадэлі ва ўвесь рост паўстала праблема «выжывання большасці галін» — а значыць, і мадэлі ў цэлым!

Думка пра тое, што мадэль аказалася каля чырвонай рысы, чырвонай жа ніткай праходзіць праз усё Пасланне—2022. Пра гэта, калі хто не зразумеў, і тры пытанні, звернутыя да беларускага грамадства. Не магу ўтрымацца, каб не нагадаць іх: «Ці гатовыя вы, беларусы, плаціць за ўласную абарону, за ўласную дзяржаву?», «Вы гатовыя плаціць за гэта дарагую цану, імя якой — суверэнітэт і незалежнасць?» і «Ці гатовыя вы быць ініцыятыўнымі і працаваць на сябе?»

Як тут ні прыгадаць плакат часоў Грамадзянскай вайны з чырвонаармейцам: «Ты запісаўся...», " Ты гатовы...".

Асабіста я быць ініцыятыўным і працаваць на сябе гатовы. І гэты опус — яскравае таму сведчанне.

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

МЕРКАВАННЕ

# НАПАД РАСІІ НА УКРАІНУ СТАЎ ПАЧАТКАМ ТРЭЦЯЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ?

**Джордж Сорас пракаментаваў напад Расіі на Украіну. Па словах амерыканскага фінансіста, Пуцін «вырашыў пакараць Украіну за тое, што яна супраціўляецца, і стаў дзейнічаць без усялякіх тармазоў».**

Напад Расіі на Украіну 24 лютага стала пачаткам Трэцяй сусветнай вайны. Пра гэта ў сваім артыкуле, які апублікавала выданне Project Syndicate, заявіў амерыканскі фінансіст і заснавальнік фонду «Адраджэнне» Джордж Сорас.

На думку Сораса, гэтая вайна патэнцыйна можа знішчыць нашу цывілізацыю.

У артыкуле гаворыцца, што перад уварваннем прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і старшыня Кітая Сі Цзіньпін апублікавалі вялікі дакумент, у якім абвяшчалася аб цесным партнёрстве паміж дзвюма краінамі.

«Я быў здзіўлены, што Сі відавочна дае Пуціну карт-бланш на ўварванне і развязванне вайны супраць Украіны», — адзначыў Сорас.

«Пуцін жа, заручыўшыся падтрымкай Сі, заняўся ажыццяўленнем мары ўсяго свайго жыцця з невераготнай жорсткасцю. Неўзабаве Пуціну споўніцца 70 гадоў, і ён адчувае, што, калі ён хоча пакінуць след у расійскай гісторыі, яму трэба дзейнічаць альбо цяпер, альбо ніколі», — гаворыцца ў артыкуле.

На думку Сораса, Пуцін мае намер стаць царом для Расіі і, «прыдумаўшы сабе ідэю фікс, Пуцін відавочна страціў сувязь з рэальнасцю».

«Я не ведаю Пуціна асабіста, але вельмі ўважліва назіраю за яго ўзвышэннем і ведаю, што ён бязлітасны. Ёнператварыў у руіны чачэнскую сталіцу Грозны, а цяпер пагражае зрабіць тое ж самае з украінскай сталіцай Кіевам», — напісаў фінансіст.

Па словах Сораса, Пуцін чакаў, што рускамоўныя ўкраінцы будуць сустракаць расійскіх салдат з хлебам-соллю, але моцна памыліўся.

«Ён [Пуцін. — рэд.] вырашыў пакараць Украіну за тое, што яна супраціўляецца, і стаў дзейнічаць без усялякіх тармазоў. Ён кінуў у бой усю расійскую армію і ігнаруе любыя правілы вайны», — адзначыў Сорас.

Паводле яго слоў, не выключана, што Расія прайграе гэтую вайну, паколькі заходнія партнёры пастаўляюць Украіне абаронча віды ўзбраенняў.

«Тым часам Сі, падобна, зразумеў, што Пуцін сарваўся са шпулек... Сі патэлефанаваў прэзідэнту Францыі Эмануэлю Макрону і канцлеру Германіі Олафу Шольцу і заявіў, што падтрымлівае іх міратворчыя намаганні. Ён хоча максімальнай стрыманасці ў гэтай вайне, каб прадухіліць гуманітарны крызіс. Няма ніякіх гарантый, што Пуцін саступіць пажаданням Сі. Мы можам толькі спадзявацца, што Пуцін і Сі будуць адхілены ад улады да таго, як яны знішчаць нашу цывілізацыю», — зрабіў высновы Сорас.

**Паводле www.unian.net**

ГЕРОЯМ СЛАВА

# СІЛА ВЯРБЫ ВЯДОМАЙ КАМБАТАНТКІ, ЯКАЯ БЫЛА ШМАТДЗЕТНАЙ МАЦІ

**25 лютага 2022 года ў самым пачатку новай вайны Расіі супраць Украіны ў баях за Кіеў загінула Ірына Цьвіла — вядомая камбатантка, фотамастачка, ваенная фотахранікёрка, аўтарка ваенных занатовак, якая з 2014 года сведчыла свету аб тым, што ў вайны жаночае аблічча.**

Настаўніца па адукацыі, Ірына стала грамадскай актывісткай, журналісткай і фотамастачкай падчас Рэвалюцыі Годнасці. На Еўрамайдане зразумела, што мірна жыць Украіне Расія не дазволіць, а таму вырашыла абараняць краіну не проста ўдзелам у акцыях ці настаўніцтвам, а са зброяй у руках.

Улетку 2014 года яна стала добраахвотніцай з ваенным пасведчаннем у батальёне «Січ» (Сеч) — цяпер гэта полк спецпрызначэння «Київ».

Яшчэ падчас Майдану, потым АТА (антытэрарыстычнай аперацыі) на Усходзе Украіны яна пачала фіксаваць рэвалюцыю і вайну на камеру.

У 2017 годзе адбылася персанальная выстава фотамастачкі — «Від Майдану до АТО».

Але перадусім яна была камбатанткай і не любіла, калі яе называлі ваеннай журналісткай ці проста фотамастачкай, хоць жанчынаў часта прымацоўвалі да прэсслужбы, каб выхаваць ім жыцці. Ірына стамілася ад аберагання і настаяла на баявых заданнях. Яна прайшла крывавыя абстрэлы пад Славянскам, баі ў Пясках (Данеччына).

З маладосці палюбіла кветкі, займалася ружамі, у якіх хавалася ў цяжкія моманты. А яшчэ на вайне яе здзівіла і зачаравала сіла вярбы: абстраляная, знявечаная, падаецца, вынішчаная, яна насупор усяму аднаўлялася і квітнела. Сіла вярбы давала сілу і ёй на вайне. У гэтым дрэве Ірына пабачыла мацату Украіны, якая аднаўляецца насуперак агрэсіі.

У ветэранскім жыцці Ірына доўга шукала сябе, не магла адаптавацца да цывільнага жыцця. Дзякуючы праекту «Посестри» прайшла трэнінг і вырашыла скіраваць энергію на стварэнне прыгожага — так, паўстаў праект VERBA . Ірына стварала біжутэрыю на аснове кветак не толькі вярбы, але і іншых раслінаў.

Калі-нікалі яна дзялілася сваімі ваеннымі ўспамінкамі: падчас рэдкіх публічных выступаў ці ў друку. Так, у 2017 годзе апублікавала свае занатоўкі пра вайну ў калектыўнай кнізе «Голос війни: історії ветеранів» (Голас вайны: гісторыі ветэранаў). Таксама сталася гераіняй кнігі «Дівчата зрізають коси» (Дзяўчаты зразаюць косы), якая атрымала Шаўчэнкаўскую прэмію.

На ўварванне Расіі ва Украіну 24 лютага 2022 года Ірына зрэагавала імгненна — яна вярнулася на вайну. 25 лютага ў баях за Кіеў загінула разам з спадарожнікам жыцця Дзмітром. Сіротамі засталіся іх пяцёра дзяцей.

Мажліва, запаветам Ірыны можа стаць ейнае ж выказванне ў адным з інтэрв'ю: «Можа, я разрыдаюся, калі надыдзе перамога, а пакуль няма часу кіснуць». Слава Украіне!

**Уладзіслаў Гарбацкі**
**novychas.online**

ПОГЛЯД З УКРАІНЫ

# «СЕЙЧАС В УКРАИНЕ РЕШАЕТСЯ НЕ ТОЛЬКО СУДЬБА УКРАИНЫ, НО И СУДЬБА БЕЛАРУСИ»

**Шансов остаться братьями мало, но шансов остаться людьми много. Известный врач — об опасности расчеловечивания.**

Политик Андрей Дмитриев поговорил с известным детским врачом Евгением Комаровским. Доктор, который с начала войны с семьей находился в Харькове, рассказал о том, что происходит в городе и как меняются настроения людей.

...Поначалу, когда в пять утра мы проснулись от канонады, у меня было ощущение, что я пришел в это кино, сейчас побегут какие-то титры, а у мамы будут дрожать руки — потому что в 41-м году они уезжали с бабушкой из Харькова в эвакуацию в Сибирь.

Мой дед не мог смотреть фильмы о войне, не мог слышать ни одного выстрела, хотя прошел всю войну. И когда отец показывал мне коробку с орденами, то делал так, чтобы дед не видел — потому что он их ненавидел и никогда не надевал. Он считал войну самым страшным, самым жутким, что было в его жизни.

И этот лозунг, который так много звучал... Они действительно доказали всему миру, что могут повторить. Понимаете, как это страшно? Когда в Украине был лозунг «Никогда больше», то в России был лозунг «Можем повторить». Они были готовы к этому, а мы не хотели понимать, не верили, что это реально возможно — это был сюр, шизофрения... Вот так мне это видится.

На заявления российской пропаганды о необходимости «денацификации» Украины и плохом отношении к русским Евгений Комаровский — русскоязычный, из, пожалуй, самого русскоязычного города в стране — приводит свой личный пример. И поясняет: в Украине очень трепетно относятся к своей независимости — «это как новорожденное дитя», и когда на это покушаются, учат, как жить, это воспринимают в штыки:

— В ответной реакции, вне всякого сомнения, тоже бывают перегибы. Но огромное количество людей в Украине абсолютно демократическими методами пыталось найти золотую середину. Сейчас ее уже нет.

Настроения людей, отмечает врач, меняются каждый день: первые два дня многие были уверены, что все быстро закончится и вернется в норму.

…Меня очень волнует — стремительно нарастающий градус ненависти. Все самое светлое, что было: мирный, один из самых красивых городов Европы, чистенький, вылизанный харьковчанами и властями, где в первые дни бомбежек продолжали вывозить мусор — и видеть, как этот город убивают на глазах, какое у тебя чувство?! Когда утром общий чат-перекличка — живой, неживой, у нас в огород упала ракета — вот так мы живем, понимаете?..

И вот это чувство ненависти, в топку которого каждый день подбрасываются дрова. Потому что это не прекращается, более того, интенсивность обстрелов увеличивается при том очевидном факте, что неделю стреляют по Харькову, уничтожая военные объекты (народу России и Беларуси ведь так говорят?) — вы что, криворукие ***, за неделю не можете высокоточным оружием попасть в военные объекты?! Или теперь стреляете по городу, чтобы убить живую силу, потому что страшно ножками прийти сюда?...

Врач также обратился к белорусам:

— Друзья мои. Хочется сказать: братья-белорусы — вы же еще братья, вы же от нас не отреклись? Вам сейчас решать, как жить дальше, потому что сейчас в Украине решается не только судьба Украины, но и судьба Беларуси.

Самое малое, что вы можете для нас сделать — хотя бы остаться в стороне, сделать все, чтобы со стороны Беларуси не было агрессии. Хотя бы невмешательство в этот «братский» конфликт. Обо всем остальном, пожалуй, я могу только мечтать.

Отдельно хочется обратиться ко всем силовикам, офицерам. Офицерская честь — подумайте, что для вас в этом слове? Может ли офицер поднять руку на женщину, выстрелить в направлении, где, даже теоретически, может быть ребенок? Подумайте об этом. Шансов остаться братьями мало, но шансов остаться людьми много. Давайте их не упустим.

**gazetaby.info**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 15.03.2022 у 17.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.